Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 10—(50). Вільня, 16 сакавіка 1928 году. Год II.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Мастовая вул. № 9. кв 3. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Пасьля выбараў.

Толькі цяпер, калі разьвеяўся дым выбарчай барацьбы, можна спакойна ацаніць яе рэзультаты, падлічыць здабычы і страты і, на падставе іх, прадказаць шлях палітычнага жыцьця ў будучыне.

Насам перш, як рэзультат выбарчай кампаніі 1928 году, мы павінны адзначыць паяўленьне ў Сойме новай сілы, зложанай з паслоў, папаўшых туды са сьпіску № 1 (Беспартыйнага Блёку Супр. з Урадам).

Па гэтым сьпіску прайшлі людзі розных палітычных кірункаў, розныя па свайму соцыяльнаму становішчу.

Злучыла гэтых людзей у адзін выбарчы блёк дзяржаўная думка Польшчы, думка, што партыйная і клясавая барацьба павінна быць падпарадкавана інтарэсам дзяржавы.

Гэтая думка, як аснову, прымае той бясспрэчны факт, што кіраваць жыцьцём дзяржавы і наладзіць яго ня можа які-нібудзь адзін пласт народу, адна партыя, і толькі супрацоўніцтва ўсіх пластоў народу пад бязумоўным варункам прынясеньня кожным з іх пэўных ахвяраў з сваіх клясавых і партыйных інтарэсаў, можа забясьпечыць дзяржаве трывалае існаваньне і даць шырокім масам народным прастор для творчай працы ў галіне культурнай, эканамічнай і палітычнай.

І гэта дзяржаўная думка падчас выбараў у Сойм, атрымала поўны трыумф.

Па сьпіску № 1 прайшло ў Сойм на 444 — 137 паслоў.

Яшчэ большы трыумф атрымала гэтая думка пры выбарах у Сэнат, — даючы на 111 — 48 сэнатараў.

Маем вялікую надзею, што тая дзяржаўная думка, якая злучыла гэтых розных па сваіх палітычных перакананьнях, рознаму соцыяльнаму становішчу людзей у адзін выбарчы блёк, — будзе тым цэмэнтам, які і ў законадаўчых установах зьвяжа іх у адно цэлае і створыць з гэтай групы адзіны моцны арганізм, які патрапіць сваю дзяржаўную ідэю, накінуць усяму Сойму і быць тым кіруном, каторы працу нашых законадаўчых установаў вывядзе на творчы шлях.

Другі бясспрэчны факт, які нам далі выбары ў Сойм, і яшчэ болей падкрэсьлілі выбары ў Сэнат — гэта поўны разгром польскай чорнай сотні, гэтак званай эндэцыі.

Гэтая група, якая ў прошлым Сойме разам са сваімі прыхвасьнямі мела амаль не палову ўсіх галасоў, цяпер пры выбарах засталася разьбітай дашчэнту.

Гэты поўны разгром эндэцыі, праца каторай зьяўлялася антытэзай польскай дзяржаўнай думкі, і каторая, быццам чорная хмара, вісела над жыцьцём дзяржавы і засяляючых яе народаў, — падкрэсьлівае лішні раз, што пры выбарах ішло, галоўным чынам, змаганьне паміж гэнымі двума палітычнымі антыподамі і што выбары гэныя,

даючы поўны трыумф дзяржаўнай думцы Польшчы, выказалі поўнае банкруцтва тых шовіністычных і рэакцыйных антыдзяржаўных польскіх групаў, якія да маёвага перавароту кіравалі жыцьцём Польшчы прывёўшы яе амаль на самы бераг пагібелі.

Факт разгрому эндэцыі беларусы прынялі з вялікім здаваленьнем.

Толькі дзякуючы працы гэных паноў, дасюль нацыянальныя дамаганьні беларускага народу ня толькі не знайшлі справядлівай разьвязкі, але наагул ніколі ня былі пастаўлены на парадак дня; дзякуючы працы гэтых паноў, каторыя не хацелі прызнаваць у Польшчы нават істнаваньня беларусаў, стварыліся паміж гэтымі двума народамі тыя ненармальныя адносіны, якія былі аднэй з прычынаў узросту і разьвіцьця Грамады; толькі дзякі ім не знайшла належнай разьвязкі справа беларускай школы; толькі дзякуючы ім імя „беларус“ у вушох часткі польскага грамадзянства зычэла, як імя ворага польскага народу. Дзеля гэтага, прымаючы з вялікім здаволеньнем факт разгрому эндэцыі, мы адначасна з вялікім здаволеньнем прымем і трыумф польскай дзяржаўнай думкі, бо ў межах гэнай думкі, мы ў гэтым глыбока пераконаны, ня могуць не знайсьці справядлівай разьвязкі нацыянальныя дамаганьні беларускага народу ў галіне культурнай, гаспадарчай і палітычнай, асабліва пасьля таго, як сотні тысячаў беларускіх галасоў у Віленшчыне, Наваградчыне і Горадзеншчыне, адданых за сьпісак № 1, разьвеялі, урэшце, легэнду, створаную эндэцыяй, гэтым найвялікшым ворагам Польскае Дзяржавы і Беларускага Народу.

Праўда, частка беларускага грамадзянства яшчэ сяньня аддала свае галасы за Блёк Нацыянальных Меншасьцяў і за Грамаду. Аддала дзеля таго, што не расьсеялася яшчэ струтае паветра створанае эндэцыяй, паветра ў каторым толькі і маглі расьці і размнажацца гэныя два гатункі паганага зельля.

Цяпер пасьля, разгрому польскай чорнай сотні, з істнаваньня каторай чэрпалі сокі для сзайго жыцьця і ўзросту гэныя шкодныя расьліны, дні іх росквіту зьлічаны.

І тады ня толькі тыя беларусы, якія сяньня, паслухаўшы нашага поклічу, аддалі свае галасы за № 1, але і нашы палітычныя ворагі зразумеюць, чаму мы заклікалі беларускае грамадзянства галасаваць за рэпрэзэнтантаў дзяржаўнай польскай думкі.

19 сакавіка ўся Польшча сьвяткуе дзень імянінаў маршалка Пілсудскага, старшыні Рады Міністраў, найвялікшага патрыёта і будаўнічага Незалежнае Польшчы.

Рэдакцыя „Беларускага Дня“ прылучаецца да гэтага шырокага выяўленьня голду і пашаны Вялікаму Сыну Беларуска-Літоўскіх земляў і змагару за Справядлівасьць і Права.

## Беларускае прадстаўніцтва ў Сойме і Сэнаце.

Да выбараў у Сойм і Сэнат 4 і 11 сакавіка 1928 г. прыступілі беларусы ў той форме, якая найлепш сьведчыць аб хваравітасьці руху ў палітычнай і нацыянальнай галінах.

Як-бы не ацэньваць вынікі выбараў у 1922 г., аднак кожнаму ясна, што з выбараў 1928 г. беларускае прадстаўніцтва ў законадаўчых польскіх установах і па ліку і па якасьці ўступае шмат у чым прадстаўніцтву з 1922 г.

Тымчасам усе, нават варожыя беларусам групы прызнаюць, што працэс усьведамленьня беларускіх масаў у працягу 6-цёх гадоў ад 1922 г. да 1928 паглыбіўся, і нацыянальны воблік беларускіх земляў стаўся больш выразны. І вось, прыймаючы пад увагу гэтую большую нацыянальную сьведамасьць беларускага народу, трэба сказаць, што з выбараў 1928 г. беларускія палітычныя групы не скарысталі, вышлі з іх аслабленымі і слушна зусім на самых сябе адчулі вынікі тае дурное і шкоднае работы, якую вялі ад адных выбараў да другіх.

Увайшоўшы ў Сойм з выбараў 1922 г., якія далі перавагу польскай рэакцыі — эндэкам і Пясту (групе сільнага сялянства), беларускія паслы не навязалі разумных адносін з польскімі дэмакратычнымі сялянскімі і работніцкімі соймавымі партыямі, заігрывалі з жыдоўскай буржуазіяй і вялі такую палітыку, якая ў выніку сваім давяла да таго, што ні адна дэмакратычная польская партыя не падтрымлівала Беларускага Пасольскага Клюбу і ён у сваіх выступленьнях рэдка знаходзіў падтрыманьне.

Праўда, беларускія паслы адразу пачалі якшацца з польскімі камуністычнымі пасламі, але гэты іхні саюзьнік заўсёды прыносіў найбольш шкоды для беларусаў.

Камунізм ніколі ня будзе мець пасьпеху сярод польскага сялянства і работнікаў. Ён знаходзіць сабе староньнікаў паміж жыдоўскім насельніцтвам вялікіх гарадоў і невялікай часьці работнікаў нездаволеных са згодніцкай тактыкі польскіх социялістых, якія засядалі ў урадах разам з польскай рэакцыяй. Камунізм у Польшчы ня страшны дзяржаве, бо староньнікамі яго зьяўляюцца работнікі-жыды ў веку ад 17 да 25 гадоў (да жаніцьбы, ці закладкі свайго варштату) дый толькі. Камунізмам заўсёды апраўдвала сваю рэ-

## Паслы з беларускіх акругоў.

4 сакавіка 1928 г. аказаліся выбранымі такія паслы з беларускіх акругоў:

**Вокруг № 61, паветы: Наваградак, Стоўпцы, Несьвеж, Баранавічы, Слонім):** 1) Адвардь Таўрогінські, кіраўнік Саюзу Сельска - Гаспадарчых Гуртkoў у Вільні, 2) Канстанты Рдултоўскі, і 3) Язэп Макрэцкі, селянін, беларус — усе па сьпіску № 1.

4) Аляксандар Стэгановіч, селянін, 5) Канстанты Савонь, селянін і 6) Ігнат Дварчанін, вучыцель — усе беларусы, прайшлі па сьпіску № 39.

**Вокруг № 62, (паветы: Ліда, Валожын, Ашмяна і Вялейка):** 1) Казімір Акуліч, урадав ц, 2) Уладыслаў Каміньскі, асаднік, 3) Янка Шчэрба і 4) Язэп Лойка, палякі — прайшлі па сьпіску № 1.

5) Янка Станкевіч, вучыцель, 5) Флегонт Валынец — беларусы.

**Вокруг № 64, (паветы: Сьвянцяны, Браслаў, Дзісна, Дунілавічы):** 1) Мечыслаў Рачкевіч, 2) Сьцяпан Бракоўскі, — прайшлі па сьпіску № 1.

3) Каруза Павал, 4) Стэповіч Альбін і 5) Юхневіч Кастусь, беларусы — прайшлі па сьпіску № 18.

6) Плаўскі Станіслаў — выбраны па сьпіску № 2.

**Вокруг № 63, (Вільня места і павет):** 1) Мар'ян Касьцялкоўскі, 2) Станіслаў Мацкевіч — ад № 1.

3) Аляксандра Карніцкая — ад № 3.

4) Якуб Выгодзкі, жыд — ад № 18 і

5) Аляксандар Зьвежынскі — ад № 24.

**Вокруг № 60, (паветы: Пінск, Лунінец, Сарны):** 1) Вацлаў Макоўскі, 2) Пётра Олевінскі — прайшлі ад № 1.

3) Леон Васілеўскі — выбраны па сьпіс. № 2.

4) Кароль М. — выбраны па сьпіску № 20.

### Вынікі выбараў у Сэнат.

11 сакавіка г. г. адбыліся выбары ў Сэнат, якія далі такія вынікі:

Сьпісак № 1 Блёк Супрац. з Урадам — 48 сэн.
„ № 2 Польскія Соцыялістыя — — 10 „
„ № 3 Вызваленьне — — — — — — 7 „
„ № 7 Народн. Работніцкая Партыя 2 „
„ № 8 Украінскі Сель-Роб. — — — 1 „
„ № 10 Хлопская Партыя — — — 3 „
„ № 18 Блёк Нацыян. Меншасьцяў 21 „
„ № 21 Радыкальн. Хлопск. Партыя 1 „
„ № 22 Украінск. Соц. Парт. Працы 1 „
„ № 24 Эндэкі — — — — — — — — 9 „
„ № 25 Хадэкі і Пяст — — — — — — 6 „
„ № 37 Карфанты — — — — — — — 1 „

Беларусаў выбрана 2 па сьпіску № 18 — Вячаслаў Багдановіч у Віленскім вокрузе і Базыль Рагуля ад Наваградзкага вокругу.

### Лік беларусаў у Сойме і Сэнаце.

У параўнаньні з выбарамі 1922 г. лік беларускіх паслоў і сэнатараў паменшыўся. Паслоў будзе: Ф. Ярэміч, К. Юхневіч, П. Каруза, А. Стэповіч, Я. Станкевіч, Ф. Валынец, А. Стэгановіч, К Савонь, Ігн. Дварчанін, Я. Макрэцкі — усяго 10 чалавек і 2 сэнатары: В. Багдановіч і Б. Рагуля.

### Нацыянальныя меншасьці ў Сойме.

Украінцаў — 50, Немцаў — 17, Жыдоў — 13 і Беларусаў — 10, разам — 90 паслоў, у папярэднім Сойме было 84 паслы ад нацыянальных меншасьцяў. Перад выбарамі разьлічалі, што лік паслоў ад нацыянальных меншасьцяў будзе больш, але гэтыя надзеі ня споўніліся, бо нацыянальныя меншасьці разбіліся на некалькі групаў і выставілі свае сьпіскі. Толькі немцы ішлі разам і галасавалі за № 18, чым павялічылі лік сваіх паслоў. У Лодзі, на Горнай Сілезіі і на Цешынскай Сілезіі нямецкія работнікі галасавалі за сьпісак № 2, Польскае Соцыялістычнае Партыі, якая зблёкавалася з Нямецкай Работніцкай Партыяй.

---

акцыйную палітыку польская эндэцыя, якая пад фірмай камунізму хацела змагацца з усякімі палітычнымі свабодамі.

І гэтая, занадта блізкая, сувязь беларускіх паслоў з камуністымі і блізкімі да іх пасламі ў папярэднім Сойме вельмі шкодзіла беларускай справе, на якую клала пляму недзяржаўнага палітычнага радыкалізму. Бо-ж камуністыя, апрача пустых слоў аб сялянска-работніцкім урадзе, нічога добрага беларускаму сялянству ніколі даць ня могуць, маючы ў сваёй праграме скасаваньне прыватнай уласнасьці на зямлю ня толькі абшарніцкую, але і дробнага сялянства.

Найвялікшай памылкай б. беларускіх паслоў было тое, што яны, адразу пасьля выбараў ня прыступілі да зарганізаваньня *аднае* беларускае сялянскае радыкальнае партыі, якая-б, заняўшы лёяльнае становішча ў адносінах да польскае дзяржаўнасьці і, парваўшы ўсялякую магчымасьць орыентацыі на г. зв. Савецкую Беларусь, ці іншую дзяржаву патрапіла-б выкарыстаць палітычныя і культурныя арганізацыйныя магчымасьці, якія даваліся польскай конституцыяй.

Беларускія паслы гэтага не зрабілі дый нагул аж да няшчаснага твору „Грамады“ ніякае арганізацыйнае і культурнае работы сярод сялянскіх масаў не вялі. Бо тыя, навет даволі частыя, інтэрпэляцыі, якія падаваў Беларускі Пасольскі Клюб, нічога сялянству не давалі, ды аб іх беларускія масы мала і ведалі. А многія з паслоў, апрача Вільні ды Варшавы, нікуды на месцы, да сваіх выбаршчыкаў не даяжджалі.

Пасьля прышла няшчасная пара грамадаўскае перапісі, якая разбіла дашчэнту беларускія нацыянальныя сілы. Бо ў выніку „работы“ Грамады культурныя сілы беларускія ак заліся за кратамі альбо за ўсходняй мяжой. Неграмадаўцы-ж, аплюваныя агітацыяй убраўшайся ў непагрешымасьць і прававерн сьць Грамады, сталіся ў панясьці цёмнае ямчэ, палітычна недасьпелае нашае вёскі, нейкімі „здраднікамі“ і „буржуямі“.

Для опозыцыйных групаў, якія вядуць вострую крытыку дзяржаўнага і ўрадавага ладу, найлепшы грунт заўсёды вытварае сам урад, які ня хоча з'аналізаваць настрояў у грамадзянстве, зразумець іх і споўніць пэўныя дамаганьні насяленьня. Грамада паўстала на гэткім грунце, прыгатаваным дзікай палітыкі эндэцкіх урадаў і іх дурное палітыкі ў адносінах да беларусаў.

Гэтая опозыцыйнасьць Грамады і цкаваньне ўсіх іншых беларускіх групаў вытварылі перад самымі выбарамі, ня гледзячы на рэпрэсіі про-

## Камуністыя ў Сойме.

У папярэднім Сойме было толькі 2 камуністых, якія прайшлі ў Сойм па камуністычнаму сьпіску, пасьля да іх прылучыліся украінскія камуністыя, але камуністых было толькі 6-х. Цяпер у Сойм выбрана 7 камуністых: 2 з Варшавы, 2 з Лодзі, 3 з вокругу Бэндзін-Заверце.

## Аканчальны склад Сойму.

Паводле аканчальнага аблічӓньня склад Сойму з выбараў 1928 г. такі:

| | | | 1928 г. | 1922 г. |
|---|---|---|---|---|
| Сьпіс. № | 1 | Бесп. Блёк Супр. з Урад. | 135 | — |
| „ „ | 2 | P. P. S. | 63 | 41 |
| „ „ | 3 | Вызваленьне | 36 | 25 |
| „ „ | 6 | Stronnictwo Chłopskie | 25 | 30 |
| „ „ | 7 | N. P. R. | 3 | 18 |
| „ „ | 12 | Радыкальн. Партыя Хлоп. | 1 | 6 |
| „ „ | 13 | Камуністыя | 7 | — |
| „ „ | 14 | Związek Chłopski | 3 | — |
| „ „ | 17 | Галіцкія Сыяністыя | 6 | — |
| „ „ | 18 | Блёк Нацыян. Меншасьцяў | 56 | 84 |
| „ „ | 19 | Сель-Роб. Лявіца | 4 | — |
| „ „ | 20 | Расейцы | 1 | — |
| „ „ | 22 | Украінскія Соцыялістыя | 11 | — |
| „ „ | 24 | Эндэцыя | 37 | 100 |
| „ „ | 25 | Блёк Пяста і Хадэцыі | 34 | 94 |
| „ „ | 26 | Украінск. Партыя Працы | 1 | — |
| „ „ | 33 | Жыдоўскі Нацыян. Блёк | 1 | — |
| „ „ | 36 | Chłopska Samopom. | 1 | — |
| „ „ | 38 | Група Карфантага | 3 | — |
| „ „ | 39 | Змаганьне за інтарэсы сялян і работнік. (беларусы) | 3 | — |
| „ „ | 41 | Беларускія сяляне і работнікі (гр. Янкі Станкевіча). | 2 | — |

## Хто будзе маршалкам Сойму.

Вельмі важнай чыннасьцяй новага Сойму, які зьбярэцца ў трэці аўторак пасьля выбараў, зьяўляецца выбар Маршалка Сойму. Маршалак гэты вядзе абрады законадаўчае палаты, кіруе імі і паводле конституцыі займае вельмі высокае палажэньне ў дзяржаве. Да Маршалка пераходзіць улада Прэзыдэнта у выпадку сьмерці яго, ці перадчаснага злӓжэньня прэзыдэнтуры, як гэта было з прэзыдэнтам Войцехоўскім. У першым Сойме, дзе мелі большасьць эндэкі, Маршалкам быў Тромпчынскі, У другім Сойме, які быў ад 1922 да 1928 г. Маршалкам выбралі пястоўца Ратая. Цяпер найсільнейшай групай у Сойме зьяўляецца Блёк Супрацоўніцтва з Урадам, (135 паслоў) і дзеля гэтага відаць, што з гэтае групы будзе абраны Маршалак Сойму.

Як падаюць газэты, высоўваецца на Маршалка цяперашні віцэ-прэм'ер праф. Казімір Бартэль. На адбыўшайся 13 сакавіка нарадзе паслоў з № 1, у прысутнасьці Маршалка Пілсудскага, кандыдатура праф. К. Бартля была высунута самым Марш. Пілсудскім. Ляўіца Сойму, як пішуць газэты, высоўвае свайго кандыдата Ігната Дашынскага, вядомага кіраўніка Польскае Соцыялістычнае Партыі. Адно пэўна, што эндэк ці пястовец Маршалкам (старшынёю) Сойму ня будзе, бо гэтыя партыі вельмі слабыя ў новым Сойме.

## Канец „расейскае стыхіі“.

Выбары 1928 г., апрача шмат цікаўных і характарных зьяваў, мелі яшчэ адну, якой ёсьць ліквідацыя русыфікатарскіх замераў на беларускіх землях. Р. Н. О., ці інакш Расейскае Народнае Аб'яднаньне думала перакінуцца ў масы, знайсьці там послух і ўплывы, думала распачаць масовую работу, навязаць лучнасьць з масамі. Да гэтага часу Р. Н. О., становіць групку людзей, пераважна б. царскіх чыноўнікаў, чарнасоценцаў, расейскіх гэнэралаў і іншых бышых людзей. Павадыры гэтай групкі мелі вялікія амбіцыі. Пайсьці ў масы, стацца прадстаўнікамі „расейціў Грамады, такое палажэньне, што нельга было стварыць адзінага выбарнага беларускага фронту, пры якім толькі магчыма было выкарыстаць узрослую сьвядомасьць беларускіх масаў. З другога боку той напрамак беларускай палітычнай думкі, які зразумеў небясьпеку опозыцыі для опозыцыі, які задаўся мэтай наладзіць папсаванае Грамадой і Сельсаюзьнікамі тыпу Яраміча і Рагулі, ды псэўда-беларускімі ўрадовымі „дзеячамі“ тыпу „тоже бѣлорусса“ Паўлюкевіча і ягонае кампаніі, палажэньне беларускага насяленьня, вывесьці беларускую справу са сьляпога кута на роўную дарогу палітычнага і культурнага жыцьця, — зразумеў, што ў вытварыўшыхся варунках трэба падтрымаць ідэю аздараўленьня адносін на беларускіх землях і падтрымаў акцыю Маршалка Пілсудскага пры выбарах у Сойм і Сэнат.

Такім чынам, большасьць беларусаў, нацыянальна сьведамых, дэманстратыўна галасавала за № 1, гэтым самым асуджаючы бязгалоўе беларускіх „дзеячоў“, якія разьбіліся на некалькі групаў толькі дзеля асабістых непаразуменьняў і няўмеласьці вясьці арганізованую грамадзкую работу. У выніку такое анармальнасьці на беларскія сьпіскі папалі бястварыя людзі, якія, апрача назову „пасол“, ня маюць вялікіх здольнасьцяў да палітычнае і грамадзкае справы. Увайшоўшы ў Сойм, яны будуць заўсёды ў хвасьце соймавай работы, бо наўрад ці змогуць сябе чым-нібудзь на грунце Сойму выявіць. Арганізацыйна ў Сойме беларускія паслы ня ўтвораць аднаго клюбу, бо зашмат чаго дзеліць п. п. Ярэміча, Дварчаніна ды Станкевіча. Праўда, што галоўную ролю ў гэтым падзеле іграюць асабістыя справы, але яны цяпер запанавалі ў беларускім руху і разьядаюць яго. Беларускае грамадзянства дагэтуль ня вытварыла грамадзкае думкі, якая-б у той ці іншай форме змушала паслоў пакінуць асабістыя парахункі і ратаваць, пакуль яшчэ час, благое палажэньне беларускага руху, разьяданага асабістаю грызьнёю, найгоршымі закідамі ў здрадніцтве ды прадажнасьці, у той час, калі павага справы вымагае згоднае працы перад усім.

Мо' лекцыя, якую даў народ, галасуючы проці беларускіх сьпіскаў за той сьпісак, які асудзіў партыйную грызьню, ды вачавідныя памылкі б. паслоў, якія развалілі адзіны беларускі фронт на радасьць ворагаў нашых — Ваявудзкіх, Грабскіх ды III інтэрнацыяналу, падыхтуюць новаму беларускаму соймаваму прадстаўніцтву шлях працы. Народ гэтага чакае.

скіх“ сялянскіх масаў і ад іх імя папасьць у парлямэнт. Аб тым, што шырокіх расейскіх масаў на абшары Польшчы няма, што нацыянальная сьведамасьць беларускага і украінскага народу настолькі вялікая, што народныя масы пазнаюць, што белае, а што чорнае, што сваё, а што чужое, расейскія прайдзісьветы і іншыя дабрадзеі не хацелі слухаць.

„Русская стихія“, яны казалі, паўстае, яна сатрэ з вобліку зямлі беларусаў і украінцаў.

Тым часам, што аказалася?

Расейцы праваліліся зусім. Ледзь здабылі адзін мандат і за той мусяць падзякаваць польскім соцыялістым. Чаму, скажам далей. Здабыты адзін мандат не апраўдвае тае безгранічнай дэмагогіі, палітычнай нахальнасьці і, далікатна кажучы непрызваітасьці, якую мы сустрэлі з боку расейскіх варацілаў.

Гэтыя сумныя для расейцаў вынікі, для нас зноў зусім натуральныя, павінны быць ім добрай навукай на будучыну. Панове расейцы, беларускі і украінскі народ, гэта ня „вѣтви“ расейскага дзерава, як вы казалі, а наадварот роўныя, а можа і з большымі заслугамі народы.

Толькі дзякуючы таму вялікаму ўціску якога дазнавалі гэтыя народы ад царскіх урадаў, уціску, да якога шмат хто з вас прылажыў руку— гэтыя народы ня здолелі выявіць тых дарагацэнных духовых і культурных вартасьцяў, якія ў нетрах народных хаваюцца.

Але гэта ня значыць, што народы гэтыя памруць, што яны гатовы сваю нацыянальную сьведамасьць загубіць, на карысьць вашых зусім няшчырых пачынаньняў. Аб гэтым вы, нарэшце, пераканаліся. І калі цяпер, вы ізноў будзеце мець адвагу выступаць ад імя шырокіх масаў быццам расейскага насельніцтва, гэта будзе звычайным шантажом.

Народ беларускі 4 і 11 сакавіка здаў экзамін свае высокае нацыянальнай сьпеласьці. Бяз увагі на тое, з якога сьпіску беларусы прайшлі, бо гэта справа палітычных паглядаў і напрамкаў, з якімі на гэтых старонках мы часта змагаліся і змагацца будзем, мы ў імя праўды мусім сьцьвярдзіць, што сапраўды зварухнулася стыхія, а гэтай стыхіяй ня ёсьць выцягваны з грobу чорнымі сіламі расейскі монархізм, але гэтай стыхіяй зьяўляецца беларускі адраджэнскі рух.

Беларускі адраджэнскі рух, як кожны нацыянальны рух, з дня на дзень пашыраецца і ўзмацоўваецца. Хто гэтага ня бачыць, хто гэтага не разумее і не адцэньвае, той ня знае законаў жыцьця; і той раней ці пазьней змушаны будзе зыйсьці з гарызонту грамадзкага і палітычнага жыцьця, што так ёсьць маем прыклады, на няўдачы Р. Н. О. і на пагроме польскай чорнай сотні — эндэцыі.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Аб чым трэба памятаць землярообам.

Зіма скора-скора адыйдзе ад нас за мора. Прыйдзе ўсімі чаканая вясна. Ці, аднак, усе чакаюць вясны! Трэба сумлявацца, каб тыя з землярobаў, якія да вясновых засеваў не прыгатаваліся, каб яны чакалі з нецярплівасьцю вясны. А прыгатаваньняў да вясновых работаў ёсьць шмат. Пачнём па парадку аб іх гаварыць.

Хто з землярobаў перад зімой не прагараў над вясновыя засевы, той будзе змушаны гэта цяпер рабіць, а такіх гаспадароў шмат знайдзем.

Гаспадарскія прылады для апрацоўкі зямлі: плугі, бораны, пружыноўкі і г. д., напэўна, як былі ўвосень паложаны да сьвірна, ці кінены пад плот, дык і ляжаць там да гэтай пары. ніхто іх можа і не аглядаў. Ці будуць яны здатны да работы, без папраўкі? Ня ведама. Сашнікі, нажы ад плугоў па асеньнім гараньні пэўна што ступіліся, таксама зубы пры баронах, бракуе можа дзе-якіх шрубак, мо‘ трэба паліцы ў плугох дапштукаваць, або што іншае паправіць? Тады толькі, як прыйдзе пара з плугам выйсьці на поле, дык гаспадар аб ём падумае. Тады ўсе, нажаль, пачынаюць аб сваіх гаспадарскіх прыладах думаць запозна, адначасна прыяжджаюць з прыладамі да каваля. Дзякуючы гэтаму, ня толькі мусяць даражэй кавалю плаціць, але, што найгорш, марнуюць дарагі час.

Вось дзеля гэтага, трэба каб кожны гаспадар ува ўласным інтарэсе ўжо цяпер абглядзеў свае гаспадарскія прылады, як плугі, бароны і г. д., а калі яны патрабуюць папраўкі, дык павінен іх аднясьці да каваля, каб на час мець гатовыя.

Тое самае можна сказаць і аб насеньні да засеваў.

Усе амаль добрыя землярobы трымаюць збожжа да засеваў у гумнах, пераважна ў снапох, малоцяць толькі перад засевам. Гэта добры спосаб, але адносна толькі лубіну з увагі на яго прарастаньне (пушчаньне расткоў). Адносна жытоў трэба трымацца іншай тактыкі, калі хочам свой ураджай павялічыць.

Збожжа, вымалачанае перад засевам, калі ўжо зямля гатова да засеву, ня можа быць дакладна вычышчана так, як гэтага інтарэс землярoба і добры ўраджай вымагае.

Яно толькі адвяваецца з „лапаткі“ або раз, рэдка два прапушчаецца праз млынок або арфу. Збожжа такое даволі чыстае, прынамся на вока, але каб яго назваць праўдзівым, чыстым, здольным да засеву, да гэтага яшчэ яму далёка. Вельмі лёгка аб гэтым можна пераканацца, калі зачэрпаць з мяшка ці з купы жменю збожжа, рассыпаць яго на стале і затым адлічыць 100 штук па парадку, не пакідаючы ніводнага іншага зярняці або дамешкаў. Далей з выбраных 100 штук трэба аддзяліць розныя нячыстасьці, іншыя зёрны (напр., ад аўса трэба аддзяліць ячмень, або грэчку, і наадварот), пасьля палавінкі, пасьля і сярэдняе зярня. Астацца павінны толькі добрыя зярняты. Знаючы тутэйшае збожжа, можна загадзя сказаць, што добрага, адпаведнага да засеву, застанецца з выбраных 100 штук ад 5—15 да 30 найболей зярнят. Рэшта — гэта ўжо не пасеўны матар‘ял. Гэта шмэльц, патруха, яна

надаецца толькі на ссыпку, а ніколі на засеў. Гэтая рэшта ня толькі не прынясе гаспадару спадзяваных карысьцяў, бо прынясьці ня можа, але дасьць пэўную страту і то паважную, бо яна ня толькі загнюсіць поле, але займець месца, на якім добрае збожжа магло-б даць добры ўраджай. Па пералічэньні іншых зярнят, апрача добрых, акажацца, што сярэдніх будзе 30 — 50, часьць пасьледу і часьць сьметнякоў.

Калі гаспадар высее 100 пудоў збожжа, дык гэта ня значыць, што пасеяў 100 пудоў, а толькі гэтулькі пудоў, колькі ў гэтых адабраных 100 зярнятах аказалася добрых, вялікіх, роўных, зярнят.

Толькі добрыя зярняты даюць добры ўраджай, вялікі і поўны колас. Сярэднія зярняты дадуць малы колас, а пасьлед і сьметнякі—ніякага. Прымаючы яшчэ пад увагу, што ў рэзультаце ручнога севу, і наступна баранаваньня, часьць сеўных зярнят прападзе, бо будзе альбо заглыбока, альбо занізка ў зямлі, альбо застанецца наверсе і, дзякуючы гэтаму, нават тыя добрыя зярняты, якіх мы і так няшмат налічылі, ня ўсе ўзыйдуць. Гэта ўсё даводзіць нас да перакананьня, што, якраз дзякуючы неадпаведнаму высяваньню ня вельмі добрага збожжа, ня можам мець добрага ўраджаю з нашай зямлі, а гэтым самым з году ў год нясём страты, без надзеі паправы.

Каб мець добрае насеньне, трэба ўжо цяпер аб гэтым падумаць, а не адкладаць на пасьля.

Калі нашае ўласнае збожжа дзеля якіх-колечы прычынаў ня можа быць, як належыць, ачышчана, або выбрана на засеў, то добра было-б падумаць аб закупе добрага насеньня, бо, як кажуць прыказкі „якая маці — такая і наці“, „які плён, такі і хлеб у дом“.

Добрае насеньне—гэта падстава дабрабыту. Вялікая пара ўжо цяпер заказаць альбо купіць цяпер і штучных удабрэньняў, бо пазьней падаражэюць. *(„Kultura“).*

---

## Баразнаваньне дрэваў.

Баразнаваньне ліцыцца неабходным сродкам для садовых дрэваў, каб звольніць дрэва ад даўленьня кары, ляжачай на яго тканках.

Кара і ў здаровым стане даволі моцна сьціскае ніжэй ляжачыя тканкі, а пры хворым яшчэ больш цьвярдзее, губляючы упругасьць, і пакрытыя ёю часткі сьцябла і галін зусім ня могуць утаўшчыцца; ў гэткіх выпадках магчыма прыйсьці ім на дапамогу—прарэзваючы кару ўдоўж глыбінёй да камбіяльнага слою; гэткая апарацыя і называецца баразнаваньнем.

Праізводзячы баразнаваньне спэцыяльным дзеля гэтага—бараздуном, (можна і простым садавым ножыкам) вымагаецца прарэзваць толькі кару; калі гэта робіцца простым садовым ножыкам, дык лязьво прыладжваюць у калодкі, аставіўшы кончык нажа не даўжэйшы ад таўшчыні кары дрэва.

Вышэйназваныя інструмэнты (ножык і бараздун) для баразнаваньня павінны быць вострыя, каб пры працы ня драць кары, а прарэзваць яе гладка. Баразнаваньне сьцябла галоўным чынам састаіць у тым, што разрэзваюць кару самай кроны па простай лініі да карнявой шыйкі; гэткіх баразён магчыма зрабіць некалькі, што будзе залежаць ад таўшчыні сьцябла. На сукох і галінах баразнаваньне робіцца па той частцы, якую пажадана ўтаўсьціць, баразны лепш праводзіць з ніжняй староны.

Лепшым часам дзеля баразнаваньня лічыцца, калі скончыцца першы вясновы напор сокаў; у гэты час тканка, якая спасобствуе ўтаўшчэньню сьцябла і сукоў (камбій), знаходзіцца ў поўнай дзейнасьці. Баразнаваньне прыносе вялікую карысьць, як маладым, гэтак і сярэдняга веку дрэвам, пакуль кара на іх не пачне трэскацца і тварыць абільную скурку. Калі падходзе гэты момант у жыцьці нашага дрэва, і на карэ знойдзецца скурка і трэшчыны, тады баразнаваньне ўжо пакідаецца, а каб затрымаць напружаньне кары і прыдаць ёй гладкую паверхню, трэба як найхутчэй брацца за яе ачыстку, якая таксама мае вялікае значэньне ў жыцьці садовых дрэваў.

### Ачыстка, абмыўка і абмазка кары.

а) *Ачыстка кары.* У першых разох аб садаводзтве было гаворана ў нашай газэце аб ачыстцы сьцяблоў пладавых дрэваў ад розных небясьпечных шкоднікаў, якія зьяўляюцца на карэ ў відзе розных наносаў і г. д., таксама гутарылася яшчэ, што гэту працу трэба рабіць у канцы зімы, калі яшчэ ляжыць сьнег каля дрэваў; між іншым мусім зазначыць, што ачыстка сьцябла робіцца толькі тады, калі стаіць цёплая пагода, а ў зімныя дні гэту працу лепш не пачынаць, а аставіць яе да вясны.

У працы пры ачыстцы сьцябла ўжываюць розныя інструманты: мэталічныя і драўляныя нажы, розныя скрабніцы, шчоткі і магчыма карыстацца нават саламянымі жгутамі. Ачыстку кары пры дапамозе нажоў і скрабніц трэба рабіць вельмі асьцярожна, каб не папсаваць самую кару. Пасьля ачысткі кары каля дрэваў ствараецца шмат шумы, якую трэба абавязкава як найхутчэй сабраць і лепш спаліць, бо ў ёй могуць быць зародкі шкоднікаў, каторыя зноў могуць пладзіцца на дрэвах.

Добра і ўмела выпаўненая гэта праца вельмі хутка можа зьявіць свой уплыў на дрэвы, дзеля чаго практыкі і лічаць яе неабходнай сярод іншых працаў па дагляду за садам.

а) *Абмыўка кары.* Пасьля ачысткі кары, перад яе абмазкай вопытныя садаводы робяць з вялікай карысьцяй для дрэваў абмыўку жыдкім растворам. Самы распаўсюджаны і лепшы да ўжываньня гэта будзе раствор-шчолак, які прыгатаўляецца з наступных частак: на 1 вядро вады бяруць 6 фунтаў дзеравянага попелу і па аднаму фунту солі і простага мыла; зьмесь гэту кіпяцяць да тых пор, пакуль не разойдзецца мыла. Пасьля, таго як адстыне гэты раствор, улiваюць у яго 1 сталовую лыжку скіпідару, і ён гатоў для абмываньня сьцяблоў і сукоў, асабліва тых, дзе пасяліліся лішаі і мох.

Абмыўку сьцябла і сукоў на дрэве трэба вясьці раньняй вясной яшчэ да распусканьня почак.

У нашых садох гэта праца ня вельмі практыкуецца, але на яе трэба зьвярнуць увагу, дзеля таго, што яна прыносе вялікую карысьць для дрэваў і кожны гаспадар павінен уключыць яе да іншых неабходных працаў па ўходу за пладавымі дрэвамі.

c) *Абмазка кары.* Самым лепшым і выгадным дзеля гэтага зьяўляецца вапенны раствор; яго прыгатаўляюць вельмі проста: бяруць сьвежаадгашаную вапну, ў колькасьці ад 2--3 фунтаў на вядро вады, добра перамешваюць, прыбаўляючы гліны, ці кароўскага калу; атрыманым растворам пры дапамозе пэндзаля абмазваюць сьцябло і больш тоўстыя сукі.

Карысьць з абмазваньня кары гэткім растворам заключаецца ў тым, што гэтае абмазваньне вельмі памагае ў барацьбе з шкоднікамі, і дае сьцяблу і галінкам роўную сьветлую афарбоўку, бароне кару ад жару і холаду, а дзеля гэтага ад асмалу і замярзаньня.

Асабліва важна, што абмазка можа прадасьцерагчы дрэва ад асмалу (агнявіцы). Справа ў тым, што вясною, калі сонца пачынае награваць сьцябло і галінкі (са стараны ад сонца), ў мясцох нагрэтых адтайвае і сок; пасьля захаду становіцца зімней, наступае мароз, і ўпярод адтаяўшы сок яшчэ замярзае, што памагае трэсканьню (разрываньню) кары і ніжэй ляжачых тканак.

Каля гэтых месцаў, адкуль звычайна прасочваецца сок, кара мяняе сваю афарбоўку і адміраючы прысыхае да дравясіны.

Гэткім чынам, самая прычына асмалу (агнявіцы) састаіць у вельмі хуткай перамене цяпла ў холад, а белая паверхня можа прадасьцерагчы кару як ад лішняга награваньня, гэтак і ад ахаладжэньня.

Калі будуць заўважаны на дрэве гэткія асмалы, дык патрэбна прыступіць да іх лячэньня. Гэтае лячэньне састаіць у тым, што хворае месца на дрэве, пацярпеўшае ад асмалу, расчышчаюць да здаровай тканкі і замазваюць зьмесяй (па роўнай частцы) з гліны і вапны. Наагул абмазка кары вапнай прыносе вялікую ўслугу садовым дрэвам, а дзеля гэтага яе трэба ўжываць для дрэваў усялякага ўзросту (веку). Што тычыцца часу, калі трэба вясьці гэту працу, дык магчыма адказаць, што ўсё роўна, ці вясной, ці ўвосень; толькі трэба яшчэ зазначыць, калі вясной рабіць абмазку, дык не пазьней як да распусканьня почак, а ўвосень, як ападзе лісьцьцё.

### Разрыхленьне грунту ў садзе.

Каб зрабіць карысныя ўмовы для росту садовых дрэваў, садаводу патрэбна рупіцца таксама і аб рыхлым стане грунту ў садзе; між іншым трэба яшчэ зазначыць, што ў нашых больш сухіх мясцовасьцях трэба разрыхляць грунт ня толькі каля самых сьцяблоў дрэва, а лепш і нават абавязкава трымаць усю плошчу нашага саду пад ускапаным папарам.

Трэба заўсёды памятаць, што разрыхленьне ў садзе і зьніштажэньне шкодных траваў вельмі спрыяе для разрастаньня садоваго дрэва.

Перакопку грунту ў садзе лепш рабіць вясной, а калі толькі ёсьць магчымасьць дык, рабіць яе два разы ў год, тады другую перакопку можна рабіць ўвосень.

Восенская перакопка мае вялізарнае значэньне для пасьпешнага росту пладавых дрэваў; перакопаны на зіму садовы грунт, прадстаўляе шарахаватую паверхню і вельмі добра дзякуючы гэтаму, затрымлівае сьнег павялічваючы пры таяньні вясной запас сырасьці, а па-другое грунт пад уплывам зімавога холаду вельмі зьмяняецца, што вясной не вымагаецца вялікай працы, каб перакапаць і зрабіць грунт мягкім, на якім-бы нашыя пладовыя дрэвы знайшлі неабходныя ўмовы, каб быць здаровымі, сільнымі і даваць добры ўраджай.

Калі ж садаводу ня будзе магчымасьці зрабіць перакопку грунту на ўсёй плошчы саду, тады абавязкава патрэбна перакапаць круг пад дрэвамі, які павінен мець шырыню кроны дрэва, што тычыцца да глыбіні перакопкі, дык яна павінна быць гэткая, каб пры працы не пашкодзіць карэньням (прыблізна на глыбіню лапаты). Пры перакопцы неабходна старацца, каб лапата была рабром да сьцябла дрэва, а не сваей шырокай паверхняй. Пасьля перакопкі, калі яна робіцца вясной, неабходна грунт разраўняць граблямі, каб паменшыць выпарэньне вільгаці, што асабліва важна ў засушлівай мясцовасьці, дзе мала выпадае атмасфэрных асадкаў.

Вось усімі гэтымі працамі і заканчваецца вясновая праца па ўходу за садовымі дрэвамі.

Пералічым цяпер па парадку ўсе гэтыя працы:

1) Раньняй вясной зрабіць агульны агляд саду і паправіць усе заўважаныя пашкоджаньні дрэваў.

2) Умела і ўважліва зрабіць абцінку, а таксама ачыстку, абмыўку кары на дрэвах.

3) Калі трэба, ўтаўсьціць некаторыя часткі дрэва, дзеля чаго зрабіць баразнаваньне, і

4) Паруліцца аб перакопцы грунту ў садзе.

*С.*

---

## Як трэба даіць каровы.

Найбольшы даход у гаспадарцы ня з поля, не са збожжа, ня з саду, а з жывёхы — быдла і сьвіней. Але каб атрымаць гэты даход з кароў, трэба іх якнайлепш даглядаць, карміць, чысьціць, гадаваць змалку, ведаючы тое, што чым больш дагляду за каровай, тым больш малака атрымаем ад яе і гэтае малако будзе мець многа жыроў.

Вельмі важна пры гэтым, як адбываецца дойка кароў, бо благі спосаб даеньня можа паменшыць лік малака і яго багацьцё ў жыры, прычыніцца гэткім чынам да страты ў гаспадарцы.

Дойка кароў зьяўляецца вельмі важнай чыннасьцяй, а ўмелая дойка можа павялічыць малочнасьць каровы, прадоўжыць час, калі карова даець малако і ўзбагаціць малако ў жыры, якія зьяўляюцца найважнейшай часткай малака.

Падчас дойкі наплывае малако да вымя, якое вытвараецца пры дойцы. Бо вымя можа памясьціць ад 3 да 5 літраў малака ў залежнасьці ад малочнасьці, а нярэдка ўдой даходзіць да 10 літраў малака і больш.

Добрая дойка будзе тады, калі вымя перад самым даеньнем змасажуем рукамі, паціраючы яго кругом, пасьля скалоцім яго, паціскаючы некалькі разоў зьнізу, падобна таму як гэта робіць цялё. Далей даіць трэба „на крыж“ і поўнай рукой, а ня толькі пальцамі, пасьля ізноў трэба зрабіць масаж вымя і абавязкова выдойваць да апошняе каплі.

Перад дойкай трэба супакоіць карову, лагодна загаварыць да яе, бо толькі ў спакойным стане вытварыць карова належны лік малака і яго „адпусьціць“. Для гэтага найлепш гладзіць

карову па задзе і вымі, што добра дзеіць на нэрвовую сыстэму каровы і забесьпячае добры даплыў малака.

**Перад даеньнем трэба скалаціць вымя.**

Не адзін з сялян мог заўважыць, што цялё, перад тым як схопіць цыцку вымя, некалькі разоў падбівае яго лобам. Гэтыя рухі цяляці ёсьць нішто іншае, як масаж вымя і маюць на мэце павялічэньне жыру ў малаку, якое сплывае да вымя і таксама забясьпечваець роўнамерны даплыў малака ў вымя. Жыры малака можам павялічыць цераз масаж вымя. Пры даеньні трэба паступаць з вымем, як цялё—некалькі разоў скалаціць вымя. Робім гэта так: далонямі абодвух рук націраем вымя згары ўдол, сьцягваючы малако да вымя, пакуль яно не напружыцца і не сагрэецца.

**Даіць трэба „на-крыж“.**

Гэта значыць, што выдойваем адразу і аднечасна правую пярэднюю і левую заднюю цыцку, а пасьля левую пярэднюю і правую заднюю. У гэты спосаб аднечасна і роўнамерна драньнім абедзьве паловы вымя. Бо абедзьве паловы вымя ад'жыўляюцца асобнымі крывіноснымі жыламі. Апрача таго, дойка „на-крыж“ выклікае аднолькавы разрост вымя. Пры такой дойцы два разы даўжэй раздражаем вымя, чымся пры даеньні аднабочным. Доячы карову 10 мінут „накрыж“, доім абедзьве паловы вымя 10 мінут, а калі доім дзьве правыя ці левыя цыцкі, то кожная палова вымя раздражаецца толькі ў працягу 5 мінут.

**Даіць трэба цэлай рукою.**

Пры даеньні трэба хватаць цыцку вымя поўнаю рукою як найвышэй, пасьля прыціскаючы вялікі і ўказуючы палец, адціnaем часьць малака з вымя. А за тым націскаем па чарзе сярэдні, чацьвёрты і пяты пальцы і выціскаем малако з цыцкі. Аднечасна ссоўваем руку на цыцы так, каб ніжняя часьць далоні датыкалася да канца цыцкі. Абедзьве рукі працуюць так, што калі правая рука выціскае малако з цыцкі, то левая падходзіць дагары, каб захапіць другую цыцку зьверху. Даіць трэба хутка, каб малако плыло без перарыву.

**Вымя трэба націраць.**

Калі малака выходзіць мала і дойка канчаецца, абавязкава трэба зрабіць масаж вымя, каб можна было выдаіць астаткі малака, якія маглі затрымацца ў каналіках вымя. Гэты масаж робіцца так: бяром пярэднюю правую і левую заднюю часьць вымя праваю і леваю рукою так, каб кожная часьць вымя знаходзілася між вялікім пальцам і рэштай далоні. Гэтак узятыя ў рукі часьці вымя падносім і як-бы ўціскаем у вымя, прычым цыцкі расходзяцца ў бакі. Гэтае самае робім і з другой паловай вымя. Пасьля такога масажу выдойваем ізноў і так робім тры разы.

**Выдойваць трэба да апошняе каплі.**

Масаж вымя робіцца дзеля таго, каб можна было выдаіць апошнія каплі малака з вымя. Бо выменны мяшок мае з сярэдзіны многа загібаў і каналікаў, у якіх застаецца жыр і каплі малака. Калі гэтае малако і жыры астаюцца ў загібах, то атрымліваем худы выдай малака, а апрача таго астаўлянае малако псуе вымя і зьмяншае малочнасьць каровы. Масаж і дойка пасьля яго ўсоўвае гэтыя рэшткі малака вельмі багатага ў жыры. Гэтыя апошнія каплі малака пры даеньні маюць вельмі многа жыру, і г. зв. худое малако найчасьцей зьяўляецца дзеля благога выдойваньня вымя. Бо жыр, які дае сьмятану і масла, выходзіць з вымя толькі пад канец даеньня пасьля масажу.

**Правіла пры даеньні.**

1) Даіць ня могуць хворыя.
2) Перад даеньнем абмый вымя і вытры насуха.
3) Перад даеньнем абмый рукі.
4) Першыя каплі здойвай асобна.
5) Перад даеньнем зрабі масаж вымя, выдойвай „на крыж“ і поўнай рукою.
6) Пад канец дойкі добра вымасуй вымя і ачысьць вымя да апошняе каплі.
7) Ня зьмешвай малака ад хворых кароў, а таксама да 6-цёх дзён пасьля ацяленьня з малаком іншых кароў.
8) Дой каровы рэгулярна аб той самай пары.
9) Сядзі пад каровай некалькі мінут даўжэй, добра вымасуй вымя, бо гэта прынясе табе даход.

*„Kłosy“.*

---

# ПЧАЛЯРСТВА.

## Работы на пасецы ў сакавіку.

Першыя цёплыя вясеньнія дні здараюцца ў сакавіку месяцы. З гэтага ўжо часу пачынаецца сталая работа для пчаляра на пасецы. Ужо ў першы вясеньні цёплы сакавіковы дзень пчаляр павінен быць паміж сваіх пчолак.

У такі першы цёплы сонечны дзень пчолкі ачышчаюцца ад зімовага сядзеньня і вылятаюць з вульля, — робяць так-званы першы аблёт. Асьбожа пры гэтым першым аблёце абавязкова павінен быць прысутным сам пчаляр і сачыць за гэтаю чыннасьцю аблёту кожнага вульля, дзеля таго, каб са спосабу захаваньня пчолак пры аблёце, сконстатаваць, ацаніць палажэньне цэлага вульля на вясну.

Калі ўгледзім на аблёце пчолак некую нядарэчнасьць, дык не чакайма заўтра, бо па хвілёвым цяпле, могуць вярнуцца зноў доўгія халады, у часе якіх наша помач надта мала прынясець пчолкам карысьці. Старайма дзеля гэтага зараз-жа зарадзіць злому. Найбольшую ўвагу ў часе аблёту трэба зьвяртаць на тыя вульлі, пчолкі якіх ня робяць аблёту. Дзьве магчымасьці вынікаюць з гэтага: альбо пчолкі знаходзяцца ў голадзе і ім пагражаець галодная сьмерць альбо часам пчолкі знаходзяцца ў зусім добрым стане, але не аблятаюць толькі дзеля таго, што маюць паддастаткам ежы і цёплы, сухі вулей. У першым выпадку безадкладна трэба даць пчолкам ежы, устаўляючы ў сярэдзіну дзьве запасныя рамкі з мёдам (рамкі з мёдам на кожны выпадак застаўляем яшчэ з восені). У выпадку, калі ў нас рамак няма, дык можам даць пчолкам ежы гэткім

спосабам: наліваем у пустую вузу разагрэтае мядовае патакі зьмяшанае трошкі з вадою (дзьве сталовыя лыжкі пераваранае вады з адным літрам патакі) і гэтую вузу гэтак сама ўстаўляем у вулей, значыцца ў гняздо. Ежы гэтае пакуль што трэба даць з паўтара кілёграма, гэтага хопіць пчолкам у выпадку новых халадоў на тры тыдні.

Часамі зноў-жа здараецца, што пчолкі адпадуць, іначай адамруць. Калі яны адпалі ўжо даўно ад таго часу, як мы гэта агледзілі, дык вулей у сярэдзіне будзе мець меней-болей гэтакі выгляд: спаўшыя на дно вульля пчолкі, пакрыюцца зьверху плесьняю, некаторыя з іх застануцца паміж рамак, некаторыя зноў-жа будуць сядзець і чарачак вузы. Часамі здараецца зноў-жа, што пчолкі толькі перад некалькімі днямі, як мы гэта агледзілі, адпалі. Гэтак сама некаторыя з іх будуць ляжаць на дне вульля, некаторыя паміж рамак і чарачак вузы, з тою толькі розьніцаю, што яны ня будуць пакрытыя плеснняю. Калі ў гэткім выпадку пчолкі памёрлі ад голаду, ці ад холаду перад парай дзён, то іх пчаляр яшчэ можа выратаваць.

Найляпей ратунак гэты пачаць ад маткі. Знойдзем яе амаль што не заўсёды на дне вульля, паміж тых пчолак, якія там апалі. Знайшоўшы матку, прабуем пераканацца, ці ня ўдасца нам вярнуць яе да жыцьця. З гэтаю мэтаю. узяўшы яе ў руку, хукаем на яе цёплым паветрам з сваіх вуснаў і калі ўгледзім, што па пэўным часе матка пачнець рухаць ножкамі, значыцца можна мець надзею і да ўратаваньня цэлага пня, да чаго безадкладна і прыступаем. Бяром раёўню, ці каробку, абвязаўшы яе сітам, каб ад'жыўшыя пчолы не задохліся, зьбіраем туды пчолкі з вульля і ўмяшчаем яе ў цёплым месцы, якое мусіць мець цеплаты каля 30 град. С. Не забываймася гэтак сама ўставіць туды і рамку з мёдам, бо ад'жыўшы пчолкі патрабуюць якнайхутчэйшага пасілку. Трэба пастарацца ўберагчы пчолак ад шыбкае зьмены тэмпэратуры, бо гэта можа ім толькі зашкодзіць, а нават і згубіць нанова, ад чаго ўжо ратунку няма. Ратаваньне адбываецца ў памешканьні. Як пчолкі ад'жывуць і трохі акрэпнуць, можам іх на пару дзён у цёплую сонечную пагоду вынесьці ў сад на пасеку, каб яны абляцеліся — высыпаўшы іх перад гэтым у той вулей, дзе яны былі перад гэтым, трэба толькі перад тым вулей абагрэць і давясьці яго тэмпэратуру менш-больш да тэмпэратуры пчолак. Уратаваных гэткім спосабам пчолак трэба мець заўсёды пад руплівую апекаю; не дапусьціць да рабунку паложанага ім мёду цераз другіх пчолак, утрымліваць цяпло, і ў разе патрэбы падкормліваць.

Вульлі з памёршымі пчолкамі альбо з тымі, якіх нам не ўдалося выратаваць, адразу-ж безадкладна з пасекі выносім, а гэта дзеля таго, каб ня прывучыць іншых пчолак да рабунку. Рабунак пчолак вынікаець з таго, што пчолкі за зіму зьядуць увесь запас мёду і пачынаюць на вясну галадаваць. У гэтым рабунку, калі пчаляр яму не пастараецца перашкодзіць і зьліквідаваць, заключаецца ўся яго страта, а нават у вялікай меры пагражаець і небясьпека, дзеля таго, што падчас гэтага рабунку могуць перагрызьціся і згінуць усе пчолкі на пасецы. Ужо пры першым аблёце можам заўважыць у пчолак вялікую ахвоту да рабунку; пчолкі з больш мацнейшых вульлёў нападаюць на вульлі слабыя і згуба гэтых апошніх будзе няўхільна, калі ў вульлі будуць непатрэбныя шчыліны і дзіры альбо калі ў атакаваным вульлі будзе зашмат адчынены ляток, альбо калі малая слабая сям'я сядзіць на вялікім гняздзе. Усё гэта ў барацьбе з рабункам трэба мець на ўвазе, папераджаючы ўсё ў час; а найгалаўнейшае, што трэба мець на ўвазе, дык гэта падкормліваньне пчолак.

Як толькі наступіць першае цяпло, найважнейшаю справаю пчаляра будзе прывясьці да парадку вулей унутры, ачышчаючы яго ад сьмяцьця, якое знаходзіцца на дне вульля і якое ад вільгаці, загніваючыся, можа выклікаць хваробу ў пчолак, а галоўнае дык гэта засьмечвае і затручвае ў вульлі паветра. Пры першым зараз падмятаньні сьмяцьця, констатуем стан самое сям'і і тое, ці гэтыя сем'і маюць *маткі;* пакуль пчолкі яшчэ ня надта добра абляцеліся, найлепей будзе, калі мы вульлі бяз матак скасуем, далучаючы іх да тых вульлёў, дзе ёсьць матка з мэтаю ўзмацненьня сям'і.

Пчолкі, якія мы гэтак далучым да вульлёў з маткамі, астануцца там з ахвотаю і ня вернуцца на сваё старое памешканьне. Пазнаць-жа абязматчаны на вясну вулей зусім лёгка; прыкметаю да гэтага будзе тое, што рамкі вузы будуць забруджаны пчалінымі адходам, а самыя пчолкі пры іх падкурваньні жаласна вьюць, гэтае-ж самае можна заўважыць і пры стуканьні ў вулей, які пры яго адчыненьні.

Пры злучэньні, абязматчаных пчолак, трэба зьвяртаць найвялікшую ўвагу і на тое, ці гэты вулей не заражаны гнільцом. Бо часам і вулей заражаны гнільцом, маець больш-менш гэтакі выгляд, як вулей абязматчаны, гэта знача: так сама вуза будзець апаскуджаная пчаліным адпадам, па-за гэтым шмат пчолак будзе няжывых, а жывыя так сама пры стуканьні будуць выдаваць жаласны гук. Каб упэўніцца, ці гэта ёсьць хвароба, ці вулей абязматчаны, абавязкова трэба пашукаць маткі, і калі мы матку знойдзем, то напэўна вулей хворы. Вось-жа з такога вульля ніколі ня трэба пераносіць вузы ў іншы вулей, як і пчолак таксама ніколі ня трэба лучыць з пчоламі здаровымі (аб гнільцу і аб іншых пчаліных хваробах і аб тым, як з імі трэба вясьці хаданьне, я напішу абшырна ў іншым месцы, а тут я агранічуўся толькі, што да першых прыкметаў гнільцу, гэтае найгоршае і найстрашнейшае пчалінае хваробы).

Калі пчолкі ў ясныя, цёплыя ўжо дні, пачнуць стала вылятаць з вульля, дык трэба пчаляру парупіцца аб тым, каб калі ў поблізу няма, ляшчыны, бярозінаў, алешынаў, кляноў, альбо калі яны яшчэ не зацьвілі і з іх пчолкі ня могуць браць пылу-пяргі, гэты першы вясеньні ўзятак, за якім пчолкі надта ганяюцца, вось-жа значыцца, калі-б гэтага першага ўзятку ня было, пчаляр сам павінен даць яго ім, пасыпаючы на палатне, у розных месцах пасекі, жытняе мукі. Пчолкі надта ахвотна бяруць з мукі пылок на свае лапкі і носяць яго ў вульлі, узмацняючы гэтым свае сем'і. Трэба памятаць толькі, што, запэўніўшы пчолкам узятак пылку-пяргі, ня можна забыцца і аб тым, каб пчолкі былі пазбаўлены мёду. Самы пылок-пярга на нішто ім ня здасцца, бо, каб карміць ёю дзетку, яны заўсёды мусяць зьмяшаць пяргу з мёдам, а дзеля гэтага пчаляр і павінен запэўніць ім запас гэтага мёду, даючы яго ў вулей, калі ён патрабуець, ці то ўстаўляю-

чы запасныя рамкі з мёдам, ці то даючы патаку налітую ў вузу, а калі няма наагул мёду, то даваць гэтак званае цыты, якая прыгатаўляецца з цукру пераваранага з вадою. Запэўніўшы гэтак пчолкам ежу, пчаляр павінен рупліва глядзець за тым, каб яе ніколі ў пчолак не забракавала, даючы пчолкам новыя запасы. Калі пчаляр рупліва будзе глядзець за гэтым, то можна з пэўнасьцю сказаць, што яго пасека да часу багатага мёдабраньня будзець стаяць зусім добра і запэўніць пчаляру вялікшы даход; а гэта ўсё і зьяўляецца найвялікшым сакрэтам пчалярства.

*Пчаляр.*

## Гігіенічна-ратаўнічы аддзел.

### Некалькі слоў аб лячэньні спускам крыві.

Калісь людзі ўсе хваробы лячылі спускам крыві. Гэты час ужо прайшоў даўно. Цяпер ужо ведаюць, што кроў зьяўляецца многацэннай жыжкай, якую можна спускаць толькі тады, калі яе запраўды замнога, або яна ў якім-колечы месцы папсованая, але гэта можа азначыць толькі добры доктар. Кроў нашая разносіць цяплыню нашага цела ўва ўсе куточкі нашага арганізму. Кроў нашая, яшчэ вядзе барацьбу з рознымі хваробамі, якія хочуць апанаваць наш арганізм. Хваробы нашыя, асабліва заразныя, залежаць ад таго, што ў нашае цела і кроў, пранікаюць маленькія жывучкі, якія мы называем—бактэрыямі. Гэтыя бактэрыі такія маленькія, што вокам іх ня можна ўбачыць, а трэба глядзець праз мікраскоп, які павялічвае у некалькі сот або ў некалькі тысячаў разоў. Гэтыя бактэрыі, як пападуць у кроў, пачынаюць шыбка множыцца (некаторыя могуць кожныя 15 мінут падвойваць свой лік). Кожная бактэрыя, апрача таго, што шыбка размнажаецца, выдзяляець моцныя атруты, якія затручваюдь арганізм. Бактэрыі ёсьць усюды ў вялікім ліку, паміж іншым і ў вадзе і ў паветры. Яны часта пападаюць у чалавечы арганізм, але кроў вядзець з імі бесьперарыўную барацьбу і для таго чалавек так часта не хварэець. Калі кроў зборацъ іх адразу, чалавек ня чуець, нават ніякае недамогі, калі-ж адразу збароць ня зможа, барацьба зацягваецца, і гэтая барацьба арганізму з атрутамі бактэрыяў і самымі бактэрыямі і ёсьць хвароба. Калі арганізм зборацъ, нарэшце, бактэрыі, чалавек выздараўліваець, калі бактэрыі акажуцца мацнейшыя і зборуць арганізм, то чалавек уміраець атручаны імі.

Само сабой разумеецца, што калі чалавек крыві маець замала, то яму з хваробай бароцца трудна. Так кажа навука. Але старая традыцыя, калі ўсе хваробы лячылі спускам крыві, захавалася да нашага часу, па нашых вёсках. Часта бываюць выпадкі, што як толькі чалавек захварэець, прыводзяць знахара і той адчыняець хвораму жылу, і спускаюць гэтакім спосабам кроў, яшчэ больш аслабляючы хворы арганізм. У лепшым выпадку, ставяць хвораму п'яўкі. Ні тога ні другога ня можна рабіць бяз доктара. Крыві з жылы спускаць ня трэба, бо арганізм яшчэ больш слабеець і яму трудней збароць хваробу, апрача таго, пакуль адчынена жыла, з паветра могуць у кроў папасьці шкодныя бактэрыі і заразіць кроў. П'явак ёсьць многа. У нас найчасьцей водзіцца гэтак званая конская п'яўка, але яе для спусканьня крыві ня ўжываюць, а баруць гэтак званую лякарскую п'яўку, якая робіць на скуры чалавека трохгранную рану. Жывот п'яўкі складаецца з моцнага і сільнага мяшочка з адногамі. Мяшочак можа расьцягвацца. Як толькі п'яўка прысмокчацца і парэжаць скуру, яе жывот пачынае як помпа, пампаваць кроў з раны, а ўзамен крыві п'яўка аддаець у рану сваю сьліну, якая перашкаджае крыві засыхаць. Як толькі п'яўка напампуець свой жывот дапоўна, яна адпадаець. Разам з крывёю, ад хворага чалавека п'яўка набралася заразы-бактэрыяў. Аказалася, што кроў у жываце п'яўкі ўжо даўно пераварылася, а бактэрыі астаюцца. Яны п'яўцы ня шкодзяць і жывуць у ёй праз цэлыя месяцы. Пападаюць бактэрыі, да яе ў жывот, ня толькі з крывёй, але і з вады. Калі мы здароваму чалавеку прыставім такую п'яўку, яна разам з сваёй сьлінай перадасьць у цела чалавека і заразныя бактэрыі, а гэты чалавек можа тады захварэць, хоць быў зусім здаровы. Найчасьцей, што пэўна кожны сам бачыў, пасьля п'явак, зьяўляюцца на целе высыпка і прышчыкі, якія сьвярбяць. З іншых п'явак досі цікаўная п'яўка жывець у цёплых краёх. Даходзіць яна даўжынёй да аднаго мэтра і сядзіць прытаіўшыся на дзераве ў лясох. Калі чалавек, ці жывёліна праходзіць пад дзеравам, яна скідаецца на яго і сваім укусам прычыняець сьмерць.

*Я. П.*

# Апошнія навіны.

30 сакавіка г. г. маюць распачацца перагаворы Літвы з Польшчай, да чаго забавязалася Літва ў кастрычніку пр. г. на паседжаньні Лігі Народаў у Жэнэве.

Літоўскі прэм'ер Вальдэмарас адцягваў як мог спатканьне з польскай дэлегацыяй, паслаў польскаму ўраду аж 2 ноты, ў якіх выстаўляў шмат дамаганьняў, маючы на мэце ўнікнуць спатканьня і перагавораў з палякамі. Заграніцныя газэты нападалі за гэта на літоўскага прэм'ера, а францускі і ангельскі паслы „радзілі" літоўскаму ўраду датрымаць данага ў Жэнэве слова. У апошняй сваёй ноце з 29 лютага, высланай у Варшаву, літоўскі прэм'ер згадзўся на перагаворы з Польшчай і назначыў тэрмін, у які маюць яны распачацца, падаўшы сваю згоду на месца перагавораў—места Кэнігсбэрг, ува Усходняй Прусіі. Ад Польскага Ураду перагаворы мае вясьці міністар замежных справаў Залескі, з літоўскага боку паедзе ў Кэнігсбэрг Вальдэмарас, прэм'ер Літвы. Гэта будзе першае афіцыяльнае спатканьне Літвы з Польшчай. Трэба пажадаць, каб перагаворы давяліся да добрага для абедзьвюх старон скутку, на гэтым многа выйграюць беларускія землі. бо адчыніцца доступ да мора па Нёмне, а з Літвою наладзяцца дыплёматычныя і гандлёвыя адносіны.

Жэнэва. Нядаўна скончыліся нарады 49 сэсіі Рады Лігі Народаў, у якую ўваходзіць Польшча. Рада разглядала шмат справаў, паміж іншымі аб кантрабандзе аружжа ў Вэнгрыю, аб румынска-вэнгэрскім споры наконта оптантаў і справу польска-літоўскіх адносінаў. Літоўскі прэм'ер Вальдэ-

марас быў вызываны ў Жэнэву, але не паехаў і дзеля гэтага разгляд справы навязаньня зносінаў Польшчы з Літвою адложаны да наступнага паседжаньня Рады Лігі Народаў, якое адбудзецца ў чэрвені г. г.

**Нямеччына.** Партыі нямецкага парлямэнту, якія падтрымлівалі цяперашні нямецкі ўрад, не маглі згадзіцца паміж сабою пры апрацаваньні закону аб школах. Разышліся на пункце выкладаньня закону Божага ў школах. Адны хацелі ўвясьці абавязковае выкладаньне, другія былі процiў. Дзеля гэтага ў красавіку будзе распушчаны парлямэнт (нямецкі Сойм) і адбудуцца новыя выбары.

У Бэрлін прыяжджаў кароль Афганістану з жонкай. Ен аб'яжджае ўсе краі Эўропы і будзе так сама ў Польшчы і... ў Савецкай Расеі. Караля ўсюды спатыкаюць з вялікай помпай, асабліва ўрачыста спатыкалі яго ў Бэрліне. Што-ж немцы ня могуць крычаць „hoch" свайму Вільгэльму, дык хоць выявілі свае кайзэрскія сымпатыі азіяцкаму каранованаму ўладару. Найцікавей тое, што афганістанскі кароль едзе ў Радавую Расею, дзе ўжо гатуюцца да найурачысьцейшага спатканьня яго. І камуністыя могуць паказаць, што цэняць „яго афганскае вялічаства", замардаваўшы свайго цара. Афганістан ляжыць паміж Расеяй і Індыяй, дык бальшавікі хацелі-б мець свае ўплывы ў Афганістане, каб адтуль шкодзіць ангельцам у Індыі, найбагацейшай ангельскай калёніі, дзе ўжо даўно пачалі думаць аб тым, як-бы звольніць свой край ад ангельскага панаваньня.

**СССР.** У Радавай Расеі вельмі благое палажэньне дзеля таго, што бальшавікі ня здолелі забраць у сялян столькі збожжа, колькі ім было трэба, каб забясьпечыць места ад голаду і прадаць збожжа заграніцу, дзе трэба плаціць за заграмічныя тавары. Апошнія весьці з Расеі поўныя даных аб вялікім паходзе камуністых процiў сялян, ад якіх забіраецца апошні пуд збожжа. Дзеля таго, што сяляне вельмі варожа спатыкаюць камуністых, якія рэквізуюць збожжа, дык на вёскі выслана войска з гарматамі. Апр ча сялян так сама нездаволены з бальшавіцкае ўлады работнікі, бо работы ў Расеі няма, тыя-ж, што працуюць зарабляюць так мала, што ледзь пражыць могуць і дзеля гэтага нездаволеньне з бальшав цкае дыктатуры ўсьцяж узрастае. Бальшавіцкія фабрыкі і заводы мала выпускаюць тавару дзеля таго, што камуністыя дырэктары ня дбаюць аб фабрыках і заводах. Каб зваліць віну на каго-небудзь за растройства расейскага промыслу, бальшавікі пусьцілі пагалоску, што расейскія і заграмічныя інжынеры, якія працуюць у Расеі на фабрыках і заводах, псавалі гэтыя фабрыкі і машыны. Арыштована многа інжынераў расейскіх і 5 немцаў, запрошаных у Расею бальшавікамі. Арыштованым грозіць сьмерць. Гэтак камуністыя хочуць скіраваць нездаваленьне насяленьня з камуністычнага ладу на вучоных інжынераў, якім закідаецца, што яны даставалі грошы за псуцьцё машынаў і фабрыкаў ад былых ўласьнікаў, што жывуць заграніцай. Царскія міністры ўва ўсім вінавацілі жыдоў і іншых „інародцаў", калі самі блага рабілі, камуністыя ізноў ува ўсім вінавацяць б. фабрыкантаў і „буржуяў". А як адны, так і другія перад усім самі вінаваты.

**Англія** мае вялікі клопат з сваімі калёніямі, ці краінамі, ў якіх, што раз часьцей ды вастрэй падымаецца народ процiў ангельскага каманданьня і войска. Якраз цяпер паўстаў процi Англіі арабскі кароль Гэджасу ў Азіі, якому, відаць, памагае Турцыя, а яна ахвотна далучыла-б Гэджас да свайго гаспадарства. Так сама благія адносіны Эгіпту да Англіі. Эгіпэт дамагаецца вываду ангельскіх войскаў і свайго нацыяльнальнага войска і камандаваньня ім цераз сваіх гэнэралаў.

**Амэрыка** ізноў паменшыла лік работнікаў, якія могуць уехаць да Амэрыкі. Замест 164.867 асобаў, якія былі ўпушчаны ў Амэрыку ў 1927 г., на 1928 г. прадбачыцца дазвол на ўезд толькі для 153.541 асобы, на 11.000 менш. З Польшчы будзе даны дазвол на ўезд у Амэрыку для 6.090 чалав. Цяпер у Амэрыцы вялікае беэработьце, якое заўсёды бывае перад выбарамі прэзыдэнта. Выбары-ж адбудуцца ў 1928 г. Паміж кандыдатамі на прэзыдэнта называюць жонку б. прэзыдэнта п. Вільсон. Яна быццам згадзілася кандыдаваць. Цікава, ці выбяруць амэрыканцы жанчыну на прэзыдэнта, хоць імя Вільсона даволі популярна ў Амэрыцы. Дагэтуль прэзыдэнтам рэспублікі жанчына ня была, каралевы бывалі, але, як ведама, каралёў ніхто не выбірае, а яны пануюць нібы Божай Міласьцю.

## Суд Грамады.

З ліку 56 абвінавачаных на працэсе Грамады, які пачаўся 23 лютага, на лаве падсудных заселі:

б. паслы—Браніслаў Тарашкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Пётра Мятла, Павал Валошын, б. дырэктар віленскай беларускай гімназіі і беларускага коопэратыўнага банку Радаслаў Астроўскі, сэкратар Таварыства Беларускае Школы Язэп Шнаркевіч, Максім Бурсэвіч і Фабіян Акінчыц—абвінавачаныя па 102 арт. ч. 2, 51 і 110 Угалоўнага Закону—пагражае ім 15 гадоў катаргі.

Антон Луцкевіч, Аляксандар Коўш сьвяшчэньнік, Аляксандар Міськевіч з Міру, Стаўпецкага пав., Янка Кузьміч з Горнае Руты, Кляўдыя Гоцька з Руткевічаў—павету Наваградзкага, Мікалай Якімовіч, Вінцусь Шушкевіч, Язэп Баліцкі, Уладзімер Паддубік з Горадна, Павал Драгун з Староўшчыны, Горадзенскага пав., Міхал Каўпак і Янка Кот з Чухцаў, Язэп Патапчук з Аранчыцаў, Уладзімер Гмыр з Сочыцы, Пружанскага пав., Васіль Шкодзіч з Лазарыновічаў, Сьцяпан Шчыглінскі з Баяршчыны, Уладзімер Харкевіч з Мікноўкі, Сьцяпан Янкоўскі з Тараховічаў, Аляксандар Патоцкі з Гарнастаевічаў, Ваўкавыскага пав., Янка Гельда з Вярхлесься, Аляксандар Зданюк з Вострава, Павал Беламызы з Вострaўкі, Марцін Козіч з Стрэльчыкаў, Сакольскага пав., Сымон Саванец з Касьцянева, Павал Якубчык і Сяргей Саванцы з Казлоўшчыны, Міхал Ефімовіч і Ігнат Шацько з Азяраіцы, Аляксандар Марчык з Талькаўшчыны, Слонімскага пав., Антон Сакалоўскі з Глыбокага, Міхал Нікіфароўскі з Празарок, Кастусь Лабунька з Перадолаў, Сьцяпан Стоцік з Глыбокага, Кастусь Шакіла з Малатанаў, Міхал Шэвель з Вецераў, Тадор і Іван Верахновічы з Таргуноў, Дзісьненскага пав., Анатоль Даніловіч з Таргуноў, Дзісьненскага пав., Аляксандар Антановіч з Васюлькоў, Вялейскага пав., Вінцусь Салдыга з Фэліксава, Вінцусь Крупіца і Ігнат Мармыш з Волі, Лідзкага пав. — абвінавачаныя па 102 арт. Уг. Зак.—і грозіць ім да 8 гадоў катаргі.

Сьцяпан Куліна-Кулінoўскі з Сычавіч, Маладэчанскага пав., абвінавачаны па 102 пар. і 111 пар. Уг. Зак.—пагражае яму да 15 гадоў катаргі.

Сьцяпан Казачонак з Сыценкі, Міхал Кавалёў з Туміловічаў, Нікаиор Кавалевіч і Марак Карнілoвіч з Дзядзінага, Дзісьненскага пав.,—абвінавачаныя па 102 пар., 49, 51, 499 і 455 пар. Угалоўнага Закону—ім пагражае вечная катарга.

З першыя дні працэсу заняло чытаньне абвінаваўчага акту, з якога відаць, што паводле дадзеных палітычнае паліцыі і пракуратуры, Грамада мела зносіны з бальшавікамі і іх арганізацыямі, якія нелегальна працуюць у Польшчы—Польскай Камуністычнай Партыяй і Камуністычнай Партыяй Заходняе Беларусі.

4-ты, 5-ты і 6-ты дзень, да 1 сакавіка суд апытваў сьведкаў абвінавачэньня.

Давалі паказаньні: б. камісар палітычнаа паліцыі ў Беластоку Ясінскі і падкамісар палітычнае паліцыі ў Вільні Васілеўскі. Гэтыя сьведкі абвінавачаньня гаварылі аб дзейнасьці Грамады, якая мела зрэвалюцыянізаваць сялянскія масы і апіралася на сувязі з камуністычнымі арганізацыямі на Усходзе.

Пасьля перарыву ў разгляданьні справы Грамады, на час выбараў у Сойм, ад 1 да 12 сакавіка, нанова пачаўся працэс 12 г. месяца. Даваў паказаньні сьведка Пятроўскі, ўрадовец Віленскага ваяводзтва і сьведка Янка Бушман, які сам быў суджаны за грамадаўскую працу. Трэба ад'значыць, што дагэтуль апытана толькі 7 сьведкаў, і іх паказаньні займаюць 50 старонак працаколу.

Да канца працэсу яшчэ далёка.

# Аб усім патроху.

## Беларускія сяляне і савецкая пазыка.

Ня гледзячы на вялікую агітацыю на тэрыторыі Савецкай Беларусі, дагэтуль падпіска на 100 мільёнаую дзяржаўную пазыку „ўзмацненьня сельскіх гаспадарак" дала ўсяго толькі 17 мільёнаў рублёў. Апошні срок падпіскі мінае 1 красавіка. Срок гэны зьяўляецца яскравым доказам таго, што беларускае сялянства ня верыць савецкай уладзе і, ня гледзючы на ўсе прынукі і прымусу, ня хоча даць грошаў чырвоным валадаром, бо добра ведае, што грошы гэтыя, заместа „ўзмацненьня сельскіх гаспадарак" пайдуць на прапаганду ўсясьветнай рэвалюцыі ў замежных дзяржавах.

## Новыя горы ў Сыбіры.

На Сібіры, навуковаю экспэдыцыяй адкрыты новыя горы, якія маюць гэткую вышыню, як Пірынэі.

Жывём мы цяпер у агульным пераканаными, што зусім добра і дакладна знаем географію нашай зямлі. А дзеля таго, вялікаю неспадзеўкаю, было адкрыцьце новага ланцуга гораў, у паўночнай Сібіры.

Прафэсар *Абручоў*, які і адкрыў гэтыя горы, пасланы быў дзеля таго, каб дасьледаваць *Якуцкую* рэспубліку, якая знаходзіцца ў паўднёвай Сібіры. Народ гэты належыць да турэцка-татарскай этнаграфічнай групы і жывець ў няскончаных лясох і сьцяпох паўночнай Сібіры, па абодвух берагох ракі Лены. Паводлуг статыстычных даных, народ Якутаў лічыць каля чэцьверці мільёна чалавек.

Як ведама, на ўсход ад *Лены* цякуць тры рэчкі: *Яна*, *Індыгірка і Калыма*; бег гэтых рэчак на нашых географічных картах дакладна паданы і лічыцца зусім праўдзівым.

Тымчасам прафэсар Абручоў сьцьвярдзіў, што водная сетка гэтых рэчкаў у сапраўднасьці зусім іначай выглядаець, як гэта паказана на картах. Перш за ўсё Індігырка і Калыма цякуць зусім інакш. Бо ў абшары гэтых рэчкаў, прафэсар Абручоў, які, маючы ў сваёй экспэдыцыі 8 чалавек людзей і 40 коняй, вырушыў з Якуцку ў падарож у леташнім яшчэ годзе, і які, дзякуючы сваёй моцнай энэргіі, адкрыў вялікі ланцуг гораў, што маюць *альпійскі характар*. Паводлуг таго, як выглядаець бег вышэйназваных рэчак на картах, трэба-б было прыпушчаць, што ў тым месцы павінна знайходзіцца раўніна. Тымчасам у тым месцы ўзносяцца вялікія горы, даходзячы вышынёю да 3.300 мэтраў, гэта значыць, што яны перавышаюць нават польскія *Татры* і раўняюцца вышынёю з *Пірынэямі*. У горах гэтых на вышыні 1.300 мэтраў, энаходзяцца ўжо вялікія лясы, а далей ад 1.600 мэтраў горы гэтыя ўжо пакрыты вечным сьнегам. Абшар гэтых гораў, паводлуг дасюлешніх досьледаў, гэткі самы, як абшар *Альпаў*. Цягнецца ён к поўначы разьвернутым паўколам ад 70-га да 65-га градусу географічнае шырыні. Шырыня гэтых гораў каля 300 кілёмэтраў.

Абшар гэтых гораў тым болей цікавы, што зьяўляецца разам з тым краінаю найніжэйшае тэмпэратуры на зямлі. Ужо ў лістападзе прафэсар Абручоў зьмераў тэмпэратуру, якая была ад 50 да 60 градусаў холаду.

Зьяўляецца зусім праўдападобным, што месца гэтае праўдзівы полюс холаду.

Надта цікавыя адкрыцьці зрабіў праф. Абручоў у самым кірунку бегу рэчак. Аказваецца, што Індыгірка—гэта вялікі масыў вады, ў 1.700 кілёмэтраў даўжыні; калі так, дык масыў гэты больш за Рэйн. Як дзікая горская рэчка, *Індыгірка* цячэ шырынёю 600—800 мэтраў, а ў найшырэйшых месцах маець каля 3 — 4 кілёмэтраў. У тых вузенькіх далінах, цераз якія яна мусіць цячы, паўстаюць вялікія вадаспады.

Савецкі ўрад носіцца з замерам высланьня новае экспэдыцыі да Сібіры ў будучым годзе, але толькі тады хоча зьдзейсьніць гэты замер, калі будзе адчынена праз Сібір лятнічая лінія.

(*„Ilustr. Kurjer Codzienny"*).



Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3